ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 4 (1706) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК, 22 СТУДЗЕНЯ 1989 г. ЦАНА 20 зл.

## Сцяпан Копа і сябры

Імя Сцяпана Копы ў нашым асяроддзі непарыўна звязана з беларускай песняй, музыкай, масавай народнай культурай. Вось ужо 25 год працуе ён з дзецьмі, моладдзю і дарослымі, папулярызуючы і несучы ў свет роднае слова, жывую беларускую песню, наш фальклор, нашу спадчыну. І нават цяжка сабе ўявіць увесь наш беларускі рух на Беласточчыне без яго, на выгляд такой скромнай, асобы недзе на скраі сцэны з акардэонам у руках. Здаецца, цудоўны зладжаны спеў шматасабовых калектываў нібы выплывае сам па сабе, без ніякай дапамогі. Так здаецца гледачу на канцэрце. І толькі члены калектываў ведаюць, колькі сіл, здароўя, энергіі ўкладае ў сваю штодзённую працу гэты скромны чалавек, колькі старанняў уносіць у выдабыццё чароўнасці беларускай песні, у шуканне адпаведнага рэпертуару для сваіх калектываў, у распрацоўку яго.

Сцяпан Копа працуе інструктарам музыкі ў Ваяводскім доме культуры, вядзе два вялікія харавыя калектывы — „Гарадок" і „Каласкі", а таксама працуе з маладымі музыкантамі.

Адкуль у гэтым чалавеку столькі нязломнай ахвоты ісці з роднай песняй у народ, адкуль столькі адданасці беларускай справе, адкуль такое цвёрдае імкненне вычароўваць музычную лірыку з інструментаў і галасоў?



Гэтыя мае пытанні вяртаюць Сцяпана думкамі ў дзяцінства, у родныя Маліннікі:

— Усё, што мне ўдалося зрабіць, — гэта дзякуючы людзям, з якімі працую. Што ж можа зрабіць адзін чалавек? Трэба ж памятаць, што людзі ў калектывах працуюць грамадскім чынам, столькі год аддаюць сябе песні і роднаму слову без ніякіх узнагарод, не шкадуючы ўласнага часу, а часам і ўласных грошай. А што датычыць маёй прывязанасці да ўсяго роднага, дык я ж з Маліннік, што за Бельскам. У нашай вёсцы ў часы майго дзяцінства ніхто не гаварыў інакш, як па-беларуску. Музыка ж зачаравала мяне з першых гадоў жыцця. Будучы зусім малым, я не мог адысці з таго месца, дзе гралі. А на вёсцы гэта часцей за ўсё былі тады сямейныя ўрачыстасці або вечарынкі. Тады я стаяў, прытулены да плоту або сцяны хаты, і паглынаў чароўныя для мяне гукі. Калі падрос, быў салістам у школьным хоры. Памятаю, як спяваў на сцэне:

Гарні, гарні бульбу з печы
У торбачку ды на плечы...

Тадышні кіраўнік школы заўважыў здольнасці хлопца да музыкі і параіў бацьку Сцяпана купіць які-небудзь інструмент. За пазычаныя грошы, бо жылося тады сям'і беднавата, бацька купіў у знаёмага стары гармонік, але папярэдзіў, што грошы выкідаць не збіраецца: сын павінен навучыцца граць.

За адзін вечар хлопец вычараваў са свайго інструмента некалькі знаёмых мелодый. А на чарговай вечарынцы ў сваёй вёсцы зарабіў ужо 25 злотых. Першы заробак Сцяпан запамятаў на ўсё жыццё.

Потым, у ліцэі, Сцяпан грае ў духавым аркестры. А сапраўднае навучанне музыкі ў яго пачалося ў настаўніцкай студыі ў Беластоку, куды паступіў вучыцца пасля ліцэя. За два гады, успамінае, навучыўся больш, чым іншыя студэнты за пяць гадоў.

У 1965 годзе пачынае сваю першую працу — настаўнічае ў Трасцянцы. Тады ж пачынае працу з жыхарамі вёскі — вучыць спяваць і дзяцей і дарослых. У наступным годзе, па запрашэнню Колі Матвейчука, пераязджае ў Гарадок. Працуе інструктарам у гмінным Доме культуры і вядзе ўрокі музыкі і спеву ў школе. Сам жа працягвае сваю адукацыю — вучыцца ў Вышэйшай настаўніцкай школе ў Быдгашчы, а затым і ў Кельцах, дзе атрымлівае дыплом магістра.

Тады лёс зводзіць яго з расспяванымі гарадоцкімі жанчынамі. Ніна Мушынская, Ніна Цыванюк, Ірына Паўлючук, Оля Мядзведзева, Надзя Парэмбская (яны яшчэ і сёння спяваюць у гэтым калектыве) запрашаюць Сцяпана быць у іх акампаніятарам. Калектыў меў тады ўжо дзесяцігадовы стаж, а малады Сцяпан Копа ўваходзіць у сваю прафесіянальную працу.

З таго часу прайшло 23 гады.

(Працяг на стар. 4)

## ПЛЕНУМ ГП

18 снежня 1988 г. адбыўся першы пасля XI З'езда БГКТ Пленум ГП. У пасяджэнні ўдзельнічалі таксама члены Галоўнай рэвізійнай камісіі, Сяброўскага суда, члены ГП папярэдняй кадэнцыі і прадстаўнікі Беларускага аб'яднання студэнтаў.

Старшыня БГКТ Аляксандр Баршчэўскі падзякаваў членам улад БГКТ папярэдняй кадэнцыі і ўручыў ім граматы-падзякі.

Вялікае зацікаўленне і дыскусію выклікала інфармацыя старшыні ГП БГКТ пра тое, што прадстаўніцтва кніжнага гандлю „Белкніга" з Мінска мае прыслаць БГКТ каля 15 тысяч беларускіх кніжак і выданняў. З увагі на тое, што бібліятэка ГП БГКТ не зможа пераняць такой колькасці кніжак, пастаноўлена частку дасланых кніжак размеркаваць у бібліятэкі Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, сярэдніх і пачатковых школ, дзе вядзецца навучанне беларускай мовы, і ў бібліятэку БАСа.

Надзвычай важнай справай для БГКТ і для цэлага асяроддзя беларусаў у Польшчы з'яўляецца заснаванне беларускай друкарні на Беласточчыне. Беларусы з Амерыкі сабралі фінансавыя сродкі для закупу і абсталявання сучаснай камп'ютэрнай друкарні з кірылічным і лацінскім шрыфтамі. Прыярытэтная справа для БГКТ, як адзначылі ўдзельнікі дыскусіі, — гэта пераадолець усе арганізацыйныя цяжкасці і абсталяваць тую друкарню як мага хутчэй. Праблемы з абслугоўваннем друкарні не павінна быць: некалькі беларускіх студэнтаў зараз канчае навуку на паліграфічным факультэце Варшаўскай палітэхнікі.

Далей на пасяджэнні Пленума ГП БГКТ голас узяў старшыня Галоўнай рады Беларускага аб'яднання студэнтаў Яўген Вапа. Ён паінфармаваў прысутных аб рэгістрацыі БАСа і аб першым яго з'ездзе, які адбыўся 17 снежня 1988 г. у Беластоку. Я. Вапа звярнуўся да Пленума ГП БГКТ з просьбай дазволіць выкарыстоўваць пакуль што памяшканне клуба Варшаўскага аддзела БГКТ як часовую сядзібу БАСа. Пленум даў сваю згоду.

У далейшым ходзе пасяджэння Пленум зацвердзіў кандыдатуру Аляксандра Іваноўскага на пасаду намесніка старшыні ГП БГКТ (штатнага), Мікалая Нікалаюка — на намесніка старшыні ГП БГКТ (няштатнага) і Яна Максімюка — на пасаду сакратара ГП БГКТ.

(Працяг на стар. 2)

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

 

## БЕЛАРУСКІ ДРУК (II)

Напэўна многія чытачы спытаюць: кнігі выдаюць у Амерыцы на свае сродкі, а хто і як выдае газету? Пытанне такое поўнасцю лагічнае. Газета ж выходзіць перыядычна, і, мабыць, толькі мільянер здолеў бы выдаваць яе на свае грошы. Я не ведаю, ці ёсць у Амерыцы беларускія мільянеры. А калі б і былі, дык сумняваюся, ці схацелі б фінансаваць беларускую газету. Вядома, што мільянеры наогул скупыя, а па-другое, як правіла, касмапаліты.

Я дакладна не ведаю, хто фінансуе „Беларуса". Аднак здаецца мне, што фінансуюць усе чытачы. У кожным нумары гэтай газеты змяшчаюцца звароты да чытачоў, каб падтрымоўвалі фінансава сваю газету. Апрача гэтага, амаль у кожным нумары падаюцца спіскі ахвяравальнікаў. Побач прозвішчаў ёсць тут і сумы долараў. З гэтых спіскаў вынікае, што на „Беларуса" складаюць грошы чытачы з многіх заходніх краін, а найчасцей з Амерыкі, Канады, Аўстраліі і Англіі. Сумы ад пасобных ахвяравальнікаў вельмі розныя, скажам 100 долараў, але і дзесяць, а нават пяць долараў. Вельмі часта паяўляюцца інфармацыі, якіх ніколі няма ў нас. Гаворыцца ў іх аб тым, што такая ці іншая група беларусаў уносіць у фонд „Беларуса" такую-то а такую суму долараў замест кветак на магілу такога-то а такога памёршага.

Зразумела, што кожны край мае ўласныя звычаёвыя нормы і таму нельга асуджаць такія ці іншыя ўчынкі толькі таму, што яны ў нашай краіне не выступаюць.

Варта крыху шырэй ахарактарызаваць тоўсты навуковы журнал „Запіскі". Дагэтуль выйшла ўжо васемнаццаць нумароў гэтага часопіса. Калі „Беларус" мае выразна палітычны характар, дык „Запіскі" адпавядаюць нормам сучаснай навуковай перыёдыкі. На яго старонках паявілася рад цікавых публікацый, прысвечаных гістарычным, літаратурным або фальклорным тэмам. Прызнаюся, што я ў сваёй навуковай і дыдактычнай дзейнасці нярaз выкарыстоўваў змешчаныя ў „Запісках" публікацыі, прысвечаныя літаратуразнаўчай і фальклоразнаўчай тэматыцы.

Спомнены ўжо „Беларускі свет" выдае самастойна Мікола Прускі — пляменнік Якуба Коласа і муж нашай зямлячкі Веры Младзяноўскай з Кляшчэляў. Наколькі мне вядома, „Беларускі свет" не выходзіць рэгулярна. Часопіс гэты мае характар альманаха. Паяўляюцца ў ім проза і паэзія, афарызмы, гумар. Мікола Прускі з'яўляецца не толькі рэдактарам і выдаўцом, але і друкаром „Беларускага свету".

Не асмельваюся даваць шырэйшую інфармацыю аб беларускай мастацкай літаратуры, якая паяўляецца ў ЗША. Кніг такіх выйшла параўнаўча нямала і ўсе яны, як я ўжо гаварыў, выдаюцца на кошт саміх аўтараў. Можа, варта яшчэ ўспомніць аб выдавецкай дзейнасці Яна Пятроўскага, які жыве ў адным з паўднёвых штатаў Амерыкі. Я непасрэдна з панам Пятроўскім не сустрэўся, аднак некаторыя свае кнігі ён мне прыслаў. Кідаецца ў вочы шырокі дыяпазон яго зацікаўленняў. Перакладае ён на беларускую мову старажытных пісьменнікаў. Выдаў грэчаска-беларускі слоўнік і гэта складае толькі частку яго творча-выдавецкіх ініцыятыў.

Калі я быў у Чыкага шэсць гадоў таму назад, сутыкнуўся ў беларускай уніяцкай царкве з часопісам „Да злучэння", які прапагандаваў ідэю спалучэння ўсіх веравызнанняў у Беларусі. Невядома, ці гэты часопіс выходзіць да сёння. Не ведаю таксама ці іншыя беларускія цэрквы ў Амерыцы выдаюць калі не часопісы, дык прынамсі аказіянальныя друкі.

Пры нагодзе варта сказаць, што беларусы з Амерыкі наогул трымаюцца таго беларускага правапісу, які існаваў у БССР у дваццатых гадах, і не прызнаюць рэформаў з 1933 і 1957 гадоў. Лічаць яны, што гэтыя рэформы „адбеларушчвалі" беларускую мову.

Няма сумненняў, што недахопы дзяржаўных датацый у сур'ёзнай ступені абмяжоўваюць і перашкаджаюць развіццю беларускага публіцыстычнага і літаратурнага слова ў Амерыцы. А тое, што беларусы, нягледзячы на гэта, патрапяць друкаваць роднае слова, сведчыць аб іх адданасці беларускасці.

**Алесь Барскі**

## АМЕРЫКА, ЯКАЯ ТЫ?

(Працяг са стар. 1)

## ПЛЕНУМ ГП

Прысутныя на пасяджэнні члены ГП былі пазнаёмлены з праектам пастановы XI З'езда БГКТ. Праект выклікаў шэраг практычных засцярог. Пленум пастанавіў накіраваць праект да паўторнага апрацавання Камісіяй прапаноў XI З'езда БГКТ пад старшынствам Мікалая Аляксеюка.

Як апошні пункт пасяджэння, Пленум абмеркаваў справу гаспадарчай дзейнасці БГКТ. Праект гаспадарчай дзейнасці, прадстаўлены на пасяджэнні, Пленум ацаніў як мала рэальны ў сучасных абставінах гаспадарчага жыцця ў краіне.

Апрача вышэй спамянутых пастаноў, Пленум вырашыў наступныя справы:

— адно з бліжэйшых пасяджэнняў Прэзідыума ГП правесці супольна з Прэзідыумам Галоўнай рады БАСа з мэтаю вызначыць напрамкі супрацоўніцтва паміж БГКТ і БАС;

— арганізаваць студэнцкі вакальна-танцавальны калектыў у Беластоку;

— накіраваць у Ваяводскую раду нарадовую прапановы да праекту культурнага развіцця Беласточчыны да 2000 года, якія задавальнялі б культурныя патрэбы беларусаў Беласточчыны;

— справу кіраўніцтва Арганізацыйным камітэтам конкурсу „Беларуская песня'1989" даверыць члену Прэзідыума ГП Валянціне Ласкевіч.

**Ян Максімюк, сакратар ГП БГКТ**

**Беластоцкаму прэсаваму выдавецтву, рэдакцыі „Нівы", Духавенству, сваякам, суседзям, сябрам і знаёмым, якія ў цяжкіх хвілінах дапамаглі нам і праводзілі ў апошнюю дарогу нашага дарагога сына, мужа, бацьку і дзеда**

**ВІКТАРА РУДЧЫКА,**

**сардэчна дзякуе**

**сям'я.**

## ГАДАВІНА АБ'ЯДНАННЯ

У снежні 1988 г. ва ўсіх інстанцыях Польскай аб'яднанай рабочай партыі ўрачыста адзначаўся юбілей саракагоддзя партыі. 15 снежня 1948 г. адбыўся Аб'яднаўчы кангрэс Польскай рабочай (ППР) і Польскай сацыялістычнай (ППС) партый. У выніку яго была створана ПАРП і адначасна быў пакладзены канец расколу ў польскім рабочым руху.

З гэтай нагоды адбылося многа мерапрыемстваў — выставак, навуковых канферэнцый, вечарын і сустрэч з ветэранамі. 5 снежня 1988 г. была адкрыта ў зале НОТ выстаўка „Дарога да еднасці", арганізаваная Ваяводскай публічнай бібліятэкай у Беластоку. Беластоцкі Музей рэвалюцыйнага руху наладзіў выстаўку „За слушную змагаліся справу", якая была адкрыта 14 снежня 1988 г. у залах музея.

40-годдзю Аб'яднання польскага рабочага руху была прысвечана навуковая канферэнцыя ў Бельску-Падляшскім, якая адбылася 17 снежня 1988 г. У прачытаных на канферэнцыі дакладах закраналіся справы рабочага руху на тэрыторыі былога Бельскага павета. Д-р Генрык Маецкі ахарактарызаваў дзейнасць і ўмовы гэтага руху на Бельшчыне, д-р Станіслаў Януцкі гаварыў аб камуністычным руху ў перыяд II Рэчыпаспалітай, д-р Ежы Мілеўскі — аб ППС у міжваенны перыяд, дац. Міхал Гнатоўскі — аб Бельскім павеце ў час II сусветнай вайны, а мгр Геранім Ваўжынскі — аб рабочым руху ў гадах 1944-1948.

Канферэнцыі прыслухоўваліся ветэраны, партыйныя работнікі і дзеячы, школьная моладзь. У пытаннях і выказваннях закраналіся праблемы, яшчэ да канца не высветленыя, як роспуск КПП і КПЗБ, адносіны да польскіх вайсковых арганізацый у час II сусветнай вайны, мартыралогія членаў ППР у гады ўмацавання народнай улады.

У той самы дзень у Драматычным тэатры ў Беластоку адбылася ваяводская ўрачыстасць у гонар 40-годдзя стварэння ПАРП з удзелам ваяводскіх улад і ветэранаў рабочага руху.

**(л)**

## У СПРАВЕ „КРУГЛАГА СТАЛА"

Галоўнае праўленне БГКТ у кастрычніку мінулага года накіравала Міністру ўнутраных спраў ПНР генералу Чэславу Кішчаку прапанову адносна ўключэння сваіх прадстаўнікоў у размовы за „круглым сталом". У гэтай прапанове было падкрэслена, што працэс дэмакратызацыі грамадска-палітычнага жыцця ў краіне ад пачатку падтрымлівае наша Таварыства як адзіны афіцыйны прадстаўнік беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. У размовах за „круглым сталом" неабходна абмеркаваць набалелыя праблемы беларусаў у нашай краіне, якія патрабуюць вырашэння найвышэйшымі органамі ўлады ў духу грамадска-палітычнага абнаўлення. У адказ на вышэй спамянутую прапанову БГКТ атрымала ліст, які змяшчаем ніжэй.

Komitet Rady Ministrów do spraw Przestrzegania Prawa, Porządku Publicznego i Dyscypliny Społecznej

Obywatel dr hab. A. Barszczewski

Przewodniczący Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego

15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

W nawiązaniu do pisma z dnia 17 października 1988 r. l.dz. 208/88 — z polecenia Przewodniczącego Komitetu Rady Ministrów do spraw Przestrzegania Prawa, Porządku Publicznego i Dyscypliny Społecznej — Obywatela gen. broni Czesława Kiszczaka — dziękuję za przesłane zgłoszenie do udziału w obradach Okrągłego Stołu.

Proszę jednak mieć na uwadze, że ten rodzaj obrad ma charakter zawężający zarówno w zakresie udziału w nim osób, jak też poruszanych problemów. Wiele, nawet istotnych problemów będzie wymagało rozwiązań w odrębnym, przewidzianym dla nich trybie.

Z tych powodów, w chwili obecnej nie możemy w sposób definitywny ustosunkować się do otrzymanego zgłoszenia.

**Sekretarz Komitetu płk Tadeusz Kwiatkowski**



 

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

### АЎКЦЫЁНЫ Ў ВАРШАВЕ

У днях 26 і 27 студзеня г.г. у Варшаве, у Доме будаўнічых, што па вул. Сенатарскай № 29/31, будзе працягвацца III Аўкцыён кніжак і графікі, падрыхтаваны Аўкцыённай агенцыяй каапэратыва „Унікум". Некаторыя пазіцыі з аўкцыённага каталога павінны зацікавіць чытачоў „Нівы". Вось яны:

Poz. 14 — Bielecki W.: Puszcza Białowieska. Dęby. Drzeworyt barwny. Wymiary 35,5×41,7 cm. Cena wywoławcza 45 tys. zł.

Poz. 333 — Zankiewicz D.: Wódz malutkich, to jest nauka chrześcijańska nie dla malutkich w lata... Supraśl 1717. C.w. 28 tys. zł.

Poz. 574 — Bączkowski W.: U źródeł upadku i wielkości. Zagadnienie kresów wschodnich na tle dziejów polsko-moskiewskich. Warszawa 1935. C.w. 2,5 tys. zł.

Poz. 728 — Gomulicki W.: Na rozłogach Białoruskich. Powieść. W-wa 1911. C.w. 1,2 tys. zł.

Poz. 776 — Jakunin G.O.: Rosyjski Kościół prawosławny. Perspektywy religijnego odrodzenia Rosji. Paryż 1981. C.w. 4 tys. zł

Poz. 780 — Janus J.T.J.: Wielki pasterz na wschodnich rubieżach Ś.P. Zygmunt z Łozin Łoziński (1870—1932). Melbourne 1956. C.w. 3,8 tys. zł.

Poz. 926 — Łopalewski T.: Między Niemnem a Dźwiną. Ziemia Wileńska i Nowogródzka. Londyn 1955. C.w. 18 tys. zł.

Poz. 968 — Pamiętnik Mikołaja II od roku 1890 do 31 grudnia 1917. W-wa 1924. C.w. 4 tys. zł

Poz. 998 — Wybarnaja ardynacyja w samawrad z pradmowaj ab samawradzie i jahonym znaczeńni dlia Biełarusaw. Wilno 1938. C.w. 1,2 tys. zł.

Poz. 1103 — Schmitd H.: Unja Litwy z Koroną... Szkic dziejowy. Lwów 1869. C.w. 1,2 tys. zł.

Poz. 1145 — Sprawa brzeska. Londyn 1941. C.w. 10 tys. zł.

Poz. 1148 — Stadnicki K.: Bracia Władysława Jagiełły Olgierdowicza... Lwów 1867 (plus „Dodatki i poprawki do dzieła Bracia Władysława Jagiełły...", Lwów 1873). C.w. 6 tys. zł.

Ёсць магчымасць прыняць удзел у аўкцыёне пісьмова. У заказах кіраваных у адрас: Agencja Aukcyjna Sp. Pracy „Unicum", ul. Grodeckiego 17, 05-822 Milanówek (tel.. nr 558311), трэба падаць нумар пазіцыі, аўтара, загаловак, а таксама найвялікшую суму грошай, якую заказваючы згодны заплаціць за графіку ці кніжку.

— ✱ —

Ад 1 да 3 лютага г.г., у Доме будаўнічых, што ў Варшаве на вул. Сенатарскай № 29/31 адбудзецца XVII Аўкцыён Варшаўскага навуковага антыкварыята. На торгі чакаюць м. інш. наступныя кніжкі:

Poz. 45 — Bączkowski W.: U źródeł upadku i wielkości. Zagadnienie kresów wschodnich na tle dziejów polsko-moskiewskich. Warszawa 1935. Cena wywoławcza 1,2 tys. zł.

Poz. 70 — Borodzicz J.: Pod wozem i na wozie. Pamiętniki, czyli kilka lat pracy duszpasterskiej na Litwie, Białej Rusi i w głębi Rosyi. Kraków 1911. C.w. 2,4 tys. zł.

Poz. 98 — Chodynicki K.: Kościół prawosławny a Rzeczpospolita Polska. Zarys historyczny 1370—1632. Warszawa 1934. C.w. 6 tys. zł.

Poz. 240 — Iwaszkiewicz J.: Litwa w roku 1812. Kraków 1912. C.w. 3 tys. zł.

Poz. 242 — Jabłonowski A.: Podlasie (Województwo). Cz. 1—3. W-wa 1908—1910. C.w. 9 tys. zł.

Poz. 298 — Kolankowski L.: Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów. T.1.: 1377—1499. W-wa 1930. C.w. 4,5 tys. zł.

Poz. 456 — Mienicki R.: Ziemia Nowogródzka w dobie porozbiorowej (1793—1915). Wilno 1935. C.w. 900 zł.

Poz. 487 — Naruszewicz A.: Żywot J.K. Chodkiewicza... T. 1—2. Kraków 1858. C.w. 3 tys. zł.

Poz. 488 — Natanson-Leski J.: Epoka Stefana Batorego w dziejach granicy wschodniej Rzeczypospolitej. W-wa 1930. C.w. 900 zł.

Poz. 541 — Paszkiewicz H.: Regesta źródłowe do dziejów Litwy od czasów

(Працяг на стар. 11)

## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



Старая клуня ў Цялушках. Малюнак У. Петрука.

## ШЧАСНАЯ Ў БЕЛАСТОКУ!

9 студзеня 1989 года адкрылася ў Беластоку выстаўка вядомай беларускай мастачкі з Мінска Нінель Шчаснай. Выстаўкі гэтай, якая ў большасці экспануецца ў гмаху Ваяводскага камітэта ПАРП, з нецярплівасцю чакалі многія беластаччане.

Нінель Шчасная выставіла ў Беластоку толькі невялікую частку экспазіцыі, прысвечанай 30-годдзю яе творчасці. Найбольш карцін, каля 70-ці, выстаўлена ў холе ВК ПАРП, частка карцін і мастацкага шкла экспануецца ў Бюро мастацкіх выставак і ў галерэі „Польскае мастацтва".

Працы Нінель Шчаснай карыстаюцца нязвыклым поспехам у беластаччан. І нездарма! Ад іх вее водарам беларускіх палёў і лясоў, на іх шумяць векавыя сосны і вяртаюцца дадому свойскія буслы. Нінель Шчасная — дасканалы пейзажыст, але і партрэціст таксама. Цэлая плеяда беларускіх паэтаў і пісьменнікаў, творцаў беларускай культуры адлюстравана на яе палотнах. Максім Багдановіч, Іван Шамякін, Максім Танк, Аркадзь Куляшоў, Рыгор Шырма і іншыя... Кожны з гэтых партрэтаў выклікае глыбокія рэфлексіі, выплываючыя з адзінства зместу і формы твораў.

Адным словам, выстаўка Н. Шчаснай унесла ў беластоцкі культурны пейзаж атмасферу аўтэнтычнай беларускай паэзіі, гісторыі, культуры. Тых, хто яшчэ не паспеў наведаць яе, аўтарка і мы сардэчна запрашаем. У КВ ПАРП будзе яна адкрыта да 5 лютага г.г. Наведваць яе можна штодзённа да 16 гадзіны.

Ада Чачуга

## Сцяпан Копа і сябры

(Працяг са стар. 1)

Сцяпан ніколі не думаў, што гэтае супрацоўніцтва так зацягнецца. Відаць, добра ім працавалася разам, калі вытрымалі ўсе цяжкасці і нязгоды і цяпер спяваюць гэтак жа молада і яшчэ больш прыгожа, чым на пачатку свайго існавання. Сёлета гарадоцкі калектыў будзе святкаваць сваё 35-годдзе. Жадаем яму гэтакай жа ўпартасці, вытрымкі і ахвоты спяваць у далейшым.

У 1970 годзе Сцяпан ажаніўся з прыгожай настаўніцай, якая працавала ў Вейках. На яе бацькаўшчыне, у падбеластоцкіх Гараднянах маладыя паставілі хату, пераехалі жыць у яе і пачалі працаваць у Беластоку. А ў Гарадок на рэпетыцыі з таго часу Сцяпан пачаў даязджаць.

З беластоцкім калектывам „Каласкі" супрацоўніцтва пачалося значна пазней. Спачатку беластоцкія спевакі — Люба Гаўрылюк з дачкою Алай і іншыя — прасілі Сцяпана памагчы ім падрыхтавацца да конкурсаў беларускай песні. А ад 1984 года Сцяпан Копа вядзе і разбудоўвае вядомы ўжо нам вялікі беластоцкі мешаны харавы калектыў. Цэлымі сем'ямі спяваюць у сваім калектыве беластаччане — Гаўрылюкі, Арцішэўскія адны і другія, Карбоўскія, Белыя, а чый муж ці жонка не можа дапамагчы голасам, стараецца быць прыдатным у арганізацыйных справах. „Гарадок" і „Каласкі" — гэта вельмі розныя па сваім характары калектывы, але нашы гледачы не раз бачылі на сцэне вялікі, магутны, зводны гарадоцка-беластоцкі хор, які пакідае незабыўнае ўражанне.

Абодва гэтыя хоры, паасобку і разам, выступілі на творчым вечары Сцяпана Копы, які адбыўся ў канцы мінулага года пад назвай „Сцяпан і... копа мелодый".

— Людзі культуры звычайна выступаюць ананімна, — сказаў, адкрываючы аўтарскі вечар Сцяпана, дырэктар Ваяводскага дома культуры Казімір Дэркоўскі. — Таму ўзнікла думка арганізоўваць найбольш творчым дзеячам аўтарскія вечары. Сцяпан Копа вось ужо 25 год нясе ў народ беларускую песню, а 23-ці год працуе са слаўным, адным са старэйшых самадзейных калектываў на Беласточчыне — „Гарадком".

Канцэрт прайшоў цудоўна. Хоць на невялічкай сцэне калектывы мясціліся з немалымі цяжкасцямі, спявалі яны, як заўсёды, зладжана, мілагучна, лёгка. Гарадоцкія жанчыны спявалі са сваім салістам Юркам Налівайкам. З Налівайкам у дуэце спяваў і сам Сцяпан Копа, спявалі беластаччане ў мешаным хоры і групамі, выступіў 82-гадовы саліст беластоцкага калектыву Уладзімір Юрчак са сваёй вельмі папулярнай песняй „Ой, гарэліца, гарэліца мая... (Дарэчы, нядаўна Віктар Швед прызнаўся, што гэта яго словы). А салісткі: беластоцкага калектыву — Люба Гаўрылюк і гарадоцкага — Марыя Міруць напераборі адспявалі свае любімыя задзірлівыя частушкі, у якіх нават свайго паважанага кіраўніка і на гэтым вечары галоўную асобу не пакінулі ў спакоі, спяваючы ў яго адрас:

А ў Сцяпана ўсё па плану —  
І сямейка, і пасеў.  
Ды шкада, што не па плану  
Вельмі рана палысеў.

Выступілі ў канцэрце і маладыя выканаўцы — вучні Сцяпана Копы з музычнага гуртка, які працуе пры гарадскім аддзеле Беларускага таварыства ў Беластоку, — дуэт акардэаністаў Эва Мартынюк і Андрэй Янкоўскі. Вяла гэты багаты канцэрт, як заўсёды чароўная, Валянціна Ласкевіч.

Вечар закончыўся цёплымі словамі падзякі для Сцяпана Копы ад сяброў, розных арганізацый, было шмат кветак, нават пацалункаў. А сам Сцяпан Копа, як заўсёды скромны і моцна



Мужчынская група беластоцкага калектыву. Саліст Уладзімір Юрчак.

## БЕЗ ІНТЭРВЕНЦЫІ

З настаннем першых асенніх халадоў нашу рэдакцыю наведала Тамара Фамікоўская, жыхарка Старога Корніна, інвалід першай групы, а пры гэтым, адзінокая жанчына — без сям'і і радні. Баючыся зімовых халадоў у старой, даўно не рамантаванай хаціне, жанчына шукала дапамогі ўсюды: і на месцы, і ў нашай рэдакцыі, і нават далей, у сталіцы. На рамонт старой хаты не хапае сілы, здароўя, грошай.

Устрывожаныя лёсам хворага чалавека, едзем на месца, у гміну, у Дубічы-Царкоўныя.

Аказваецца, гмінныя ўлады адразу зарэагавалі на просьбы жыхаркі сваёй гміны. Нам застаецца толькі адзначыць гэты факт з прыемнасцю. Цешымся, што абышлося без нашага ўмешвання, без нашай дапамогі.

У гміне мы даведаліся, што сёння Тамара Фамікоўская жыве ўжо ў новаадрамантаванай хаце, лепшай, хоць у іншай вёсцы. Са Старога Корніна яе на кошт гміны перавезлі ў пустуючую хату ў вёску Вярсток. Хату перад тым адрамантавалі, прывезлі вугалю і дроў. Жыхары Вярстка дапамаглі сваёй новай суседцы загаспадарыцца на новым месцы.

Тамара Фамікоўская знаходзіцца пад сталай апекай гміны, яна сярод тых інвалідаў першай групы, якія не атрымліваюць сталай пенсіі. Таму са сродкаў грамадскай апекі гэтая хворая жанчына атрымлівала да лістапада сталую дапамогу ў суме 9230 злотых у месяц, а ад лістапада — 13950 злотых. Апрача таго гміна прызнала ёй сёлета 19 тыс. злотых на вугаль і 5 тысяч зл. на яго загаспадаранне, а таксама 6 тыс. зл. дадаткова на харчы.

На сённяшні дзень у гміне ёсць такіх падапечных 15 чалавек.

Маем надзею, што Тамара Фамікоўская знойдзе на новым месцы сардэчнасць і дапамогу, і што, нягледзячы на свой вельмі неспакойны характар, будзе адчуваць сябе ў гэтай цудоўнай пушчанскай вёсачцы добра і бяспечна.

Дарэчы, Тамара Фамікоўская — чалавек начытаны, любіць класічную літаратуру і мастацтва, збірае карціны вялікіх мастакоў, нават трохі сама малюе. І толькі цяжкая хвароба моцна перашкаджае ёй у кантакце з людзьмі і спакоі ўласнага духа.

Верым, што і яна, як абяцала пры сустрэчы на новым месцы, знойдзе ў сабе сілы на больш сардэчныя адносіны да шчырых і спагадлівых да яе людзей. (яч)

ўсхваляваны, дзякаваў усім — і сваім калектывам, і супрацоўнікам з Ваяводскага дома культуры і з БГКТ, ды ўсім, хто захацеў прыйсці і паслухаць канцэрт з нагоды агляду яго творчасці.

Некалькігадзінны канцэрт не стаміў артыстаў. Абодва калектывы зрабілі ў гонар свайго кіраўніка супольную вячэру, запрасіўшы на яе гасцей. І яна таксама закончылася багатым канцэртам, але ўжо больш свабодна, шчыра, для сябе. Сцяпан выйшаў на сярэдзіну залы, расцягнуў акардэон, і зноў паліліся, сардэчна і натхнёна, беларускія песні, але спяваныя ўжо для ўласнай душы і з радасці ад прабывання ў такой дружнай і расспяванай сям'і.

**Яніна Чэрнякевіч**

Фота аўтара



*Беластаччанка Люба Гаўрылюк і гарадчанка Марыя Міруць адспявалі ў суправаджэнні хору задзірлівыя частушкі.*



*Жаночая група беластоцкага калектыву.*

САКРАТ ЯНОВІЧ

# У БЕЛАРУСКАЙ КАНАДЗЕ І ДАЛЕЙ

(11)

Навальваецца галаўны боль, калі пастаіш перад газетным кіёскам: мноства многае назваў, таксама імпартаваных, напрыклад, фінскі штодзённы орган з Хельсінак (для кальпартажу вячэрніх выданняў устаноўлены аўтаматы, ашчадней калькулююцца). Смакую французскую фразу: „Без матэрыі нічога няма, без энергіі ўсё нерухомее, без інфармацыі ўзнікае хаос". Інфармацыйная сістэма заўсёды знаходзіцца ў адпаведнасці з узроўнем грамадскага развіцця. Дагэтуляшні вопыт недвухсэнсава выяўляе зваротныя сувязі паміж паінфармаванасцю народа і ягонай эканамічнай дынамікай. Адкрываю не нашымі адкрытае: пакуль інфармацыю трактуюць як палітыку, а не як тавар, датуль нельга на поўным сур'ёзе лічыць, што перакрочылі бар'ер раннепрамысловай развітасці. Зрэшты, выдае нас і пасляфеадальны культ фізічнай працы, якой у іх ужо амаль не ўбачыш. Крыніца багацця ў мазгах, а не ў мускулах.

Маскоўская „Литературная газета" пісала аб тым, як функцыянуе англійская пошта. Яна — кідкая мерка таго, аб чым пайшла гаворка: цыркуляцыі звестак і ведаў. У нашай цывілізацыйнай зоне спатрэбілася менавіта дзесяці дзён, каб я змог атрымаць у Беластоку кніжку, высланую з Мінска (Уладзіміра Арлова „Дзень, калі ўпала страла"). Удвая даўжэй вандраваў да маіх рук службовы ліст выдавецтва „Мастацкая літаратура", перш тыдзень праляжаўшы ў канцылярыі, ажно надумаліся ў ёй схадзіць на паштамт. За такую работу ў Канадзе — і выгналі б, і судзілі б. Гэта ж рэцыдыў каменнага веку; мой прадзед з падбеластоцкіх Крынак усяго праз трое сутак давозіў фурманкаю заказанае ў падмінскі Нясвіж.

Гадаваны ў сярмяжнай дзяржаве, у якой народ існаваў для яе, а не яна для яго, цікава было мне наведаць рэзервацыю індзейцаў Чыпава. Як ні як, сутыкненне двух канцоў тае ж лініі, — першабытнасці з сучаснасцю. Мае спадзяванні як бы апраўдваліся: — Бэлярускай дарога, — усміхнулася Галена, нямецкая жонка Шуста, калі аўта з поскрыпам загайдалася на ўхабінах і спавальнела. А вось і тубыльскія сялібы, нічога сабе, як і ў „белатварых". Толькі парадку бракуе на іх падворышчах, рыхтык бы ў цыганоў, валам валенае. І тыя ж гайні сабак. Тып людзей здалёку нічым не адрозніваецца, можа марудлявасцю... Падышоўшы, запрыкмеціш смуглявасць, мангалаватую мардатасць. Не ўпаткаеш гатоўлівасці для размовы. Занадта ідэнтычны ты з тымі, хто стагоддзем раней вырэзваў іхныя плямёны, дочак і жонак ім гвалцілі, дзетак шпурлялі ў агонь... Хаця б у тым Мідландзе з Беларускім Крыжам, які безаглядна фундавалі ў месцы мук пару езуітаватых місіянераў гадоў чатырыста таму назад, не абмовіўшыся, што трупамі „чырванаскурых" каланізатары ўслалі ваколіцу. Там, дзе адны паляць, а другія гінуць, не даходзіць да змяшання культур і расаў у нешта трэцяе, як здарылася гэта ў Мексіцы або ў Бразіліі.

У тысяча дзевяцьсот семдзесят каторымсьці Польскі Культурны Фонд выпусціў „гавэнды" ксяндза Валерыяна Мэйштовіча „Poszło z dymem". Гэты крэсавяк зрэдчас цытуе сімпатычназабаўнае, як у вопісе графскіх Карпаў, якія дазвалялі царскім чыноўнікам выказвацца — або на французскай мове, або на... беларускай! Вядома, панская фанабэрыя. Бяспечная, бо такія „нумары" не пагражалі кайданамі. З гэтага беззваротна мінулага глуму, аднак жа, дакацілася сёе-тое аж да распанелых мужыцкіх праўнукаў, калі даволі шыкоўней выглядаць, каб сустрэцца са злосцю ад тых, да якіх заадзываешся на роднай ад вякоў вечных.

Беларусы і індзейцы ці мала ў чым аналагічныя? Зведаным паніжэннем, бязвыйсцем голаду, бяссільнасцю перад рабункамі і пагалоўнымі забойствамі, пазбаўленнем годнасці, безабароннасцю асабістага гонару, бацькаўшчыны... Слабыя ўсюды падобныя. Шыпыкае між сабою гурт чыпаваў. Набліжаюся да іх я, і яны пераключаюцца на англійскае маўленне. Гэта не інтэрнацыяналізм. Агульна кажучы — страх! Паўбяды, калі змяшчаецца ён у рамках комплексу горшасці, усё такі лягчэй вылечнага.

Ловяць рыбу ў зялёністым Гуроне. Без падаткаў. Іх тэрыторыя надзелена значнай аўтаноміяй, з аўтахтоннай паліцыяй. My country, ryght or wrong — Добры ці благі, але гэта мой край. Спекулююць, здаюць у арэнду дзялянкі на дачы гараджанам. Паненкі выходзяць замуж за „белых" кавалераў, часцей у вакацыйны сезон. Фанатычна верныя абраннікам. Не дэмаралізуюць іх выгоды, не распіваюцца і не лайдачэюць ад спакусаў бестурбоцця. Інтрыгуючы параметр алкагалізму: мужчыны „ўцякаюць у чарку" ад працяглых няўдач, а з жанчынамі — закон адваротнасці, у амерыканскіх рэаліях грашавітыя алкагалічкі дамінуюць няўдачніцкіх алкаголікаў. Апускаюцца ў меланхолію ў сітуацыі гаспадыньскай малаважнасці? Паменшаныя да пасцельнага атракцыёна... — Няшмат тут бабе за што змагацца, бо ўсё яна мае — падводзіць да высноваў мой выпадковы каментатар. У самцоўскай трывіяльнасці паблісквае знаходкаю рацыянальнае зерне праўды: чалавек не вытрымлівае беспатрэбнасці ў сваім з'яўленні на свет божы.

(Працяг будзе)

## Наша пошта

Паважаная рэдакцыя!

Вось ужо на працягу даволі значнага перыяду я з'яўляюся заўзятым чытачом вашай цудоўнай газеты. Пішу вам упершыню. Я беларус. Мне 34 гады. Вельмі захапляюся ўсім, што датычыць нашае нацыянальнае гісторыі, культуры, нашае магутнае мовы. На жаль як тут, на Беларусі, так і ў Польшчы на тэрыторыі, дзе жывуць этнічныя беларусы, наша атрыбутыка як нацыі, пакуль што не ў пашане. Моцным болем пранізвае сэрца, калі на пытанне, зададзенае на роднай мове, у адказ чуеш: „Говорите на нормальном языке“. І гэта не дзе-небудзь у цэнтры расейскага горада, а ў нас, у межах рэспублікі, іншы час нават пад дахам даволі сур'ёзнай установы! Ну, ці не дзіўна?

Перабудова, якая толькі-толькі набірае тэмпы ў нашай краіне, яшчэ не паспела як след ускалыхнуць смярдзючае балота стагнацыі, так трывала засмактаўшае наша грамадства ў дрыгву злачынных ілюзій. Але нейкія зрухі сям-там ужо відаць. Створаны першыя, так званыя, „нефармальныя“ фармаванні, якія самаахвярна змагаюцца за вяртанне беларусам таго, што ім належала спрадвек і чаго іх так бесцырымонна пазбавілі ў змрочныя часы нядаўняга мінулага. Пашыраецца кампанія па стварэнню Нацыянальнага фронту Беларусі. У апошні час і друк пачаў патрошкі змяшчаць на сваіх старонках даволі змястоўныя публікацыі. Сярод рэспубліканскіх выданняў асабліва пачаў вызначацца шэраг беларускамоўных: „Літаратура і мастацтва“, „Чырвоная змена“, іншы раз і „Звязда“. Працвераджальным даждж... Працверажальным дажджом на галовы кіруючай беларускай бюракратыі быў нядаўні артыкул ва ўсесаюзным часопісе „Огонёк“, напісаны В. Быкавым. Я вельмі ўдзячны вашай газеце за змяшчэнне ў яе 51-м нумары сапраўды змястоўнага матэрыялу наконт гэтага пытання. Так, тое, што адбылося ў Мінску 30 кастрычніка, было так жудасна, што горыч і сорам за сваю бездапаможнасць і абражаную чалавечую годнасць яшчэ доўга будуць свідраваць нашы сэрцы. Далей так нельга.

Пачуццё, значна перавышаючае межы ўдзячнасці, апаноўвае мяне ўсякі раз, калі я чытаю на старонках „Нівы“ своеасаблівыя гістарычныя замалёўкі. Нейкім даволі родным напевам вее ад іх, нейкай непадробнай цеплынёй і пяшчотай. Ды і ці можа быць інакш? Гэта наша з вамі мінулае, гэта гісторыя нашых слаўных продкаў, якую ад нас на працягу апошніх дзесяцігоддзяў так старанна хавалі, і якую мы зараз павінны ведаць

(Працяг на стар. 7)

## ЯК ВЫТКАЦЬ ДЫВАНІК?

*Каб гэтаму навучыцца, трэба запісацца ў ткацкі гурток, які працуе пры Пачатковай беларускай школе № 3 у Бельску ўжо другі год. Яго арганізавала і вядзе з ім заняткі інструктар Бельскага дома культуры Марыя Бабулевіч. Заняткі ў гуртку — 2 разы ў тыдзень па дзве гадзіны — адбываюцца ў Доме культуры, бо ў школе цесна і няма дзе паставіць варштацікі — красёнцы для ткання такіх дыванчыкаў.*



*У ткацкім школьным гуртку 7 асоб з шостага класа, адны дзяўчаткі. Ахвотных было многа, але інструктар выбрала найбольш здольных. Марыя Бабулевіч расказвае нам, як дзяўчаткі праяўляюць ініцыятыву ў вышукоўванні старых мясцовых узораў і матываў, якія пераносяць на свае красёнцы. Такую творчую працу інструктар моцна падтрымлівае — гэта ж важна для адраджэння традыцыі, для выяўлення багацця народнай культуры.*

*Мы сфатаграфавалі фрагмент выстаўкі дыванікаў, вышытых дзяўчаткамі з гуртка. Выстаўка такая пастаянна экспануецца ў Бельскім доме культуры. На жаль, на нашым здымку не можам паказаць ігры колераў — вельмі багатых. Затое скажам, што пара, якую бачыце на дываніку зверху — гэта вытканы крыжыкам слаўны бельскі дуэт хору „Васілёчкі“ — Яўгенія Коршак і Канстанцін Селbadановіч — лаўрэаты апошняга конкурсу „Беларуская песня'88“. На дываніку дуэт у сваім народным адзенні, вытканы з вялікай дакладнасцю.*

*Калі я спыталася ў Марыі Бабулевіч, ці з малых яе мастачак могуць вырасці сапраўдныя мастакі, яна сказала, што гэта зусім магчыма, а некаторых з іх яна будзе рыхтаваць да паступлення ў мастацкія школы.*

**(вв)**

**Фота Я. Чэрнякевіч**

## Вандроўкі па роднай зямлі

**Пачатак у 2-3 нумарах.**

Недзе 250 гадоў таму назад жыхары Стрыкоў, у дзвюх вярстах ад вёскі, сярод густога лесу, на зямлі, даранай добрым чалавекам па прозвішчы Маляшэўскі, вырубалі паляну і пабудавалі царкоўку св. Юрыя Пераможцы. Св. Юрый, апякун пастухоў і хатняй жывёлы, ад тае пары наглядаў за стрыкоўскім дабыткам. І людзі давяраліся св. Юрыю. Безліч старых, драўляных і каменных крыжоў стаіць вакол царквы. Тры разы ў год: на св. Юрыя, на св. Ануфрыя і на Пакроўку (першая нядзеля пасля Пакровы) над могілкамі і стрыкоўскім лесам плыве спеў царкоўнага хору...

Каля дарогі ў Стрыкі, на сасне вісіць фігурка Дзевы Марыі. У гэтым жа месцы, едучы матацыклам, на простай дарозе забіўся малады хлопец. Не аднаго тутака насілі коні, не адзін чалавек, праехаўшы ці прайшоўшы месца тое, доўга потым лячыўся. Што такое тут здараецца? Якая нячыстая сіла прычыняе гэткія няшчасці?

...Было гэта даўным-даўно, калі мужыкі пасля працы гулялі ў карчмах. Адна такая стаяла на скраю лесу, непадалёк Стрыкоў. Уласнікам карчмы была яўрэйка. Відаць, вялікія даходы мела з карчмы, калі знайшліся зайздроснікі. Аднойчы, зімовым вечарам, калі ваўкі вылі да месяца, зайздроснікі тыя карчму

## Наталля Арсеннева — паэтэса пошукаў

Дваццатага верасня 1988 года споўнілася восемдзесят пятая гадавіна з дня нараджэння Наталлі Арсеневай. Няма яе прозвішча ані ў беларускіх школьных падручніках, ані ў гісторыі беларускай літаратуры. На жаль, у гэтай справе палітыка брала верх над мастацкімі каштоўнасцямі.

Наталля Арсеннева нарадзілася 20 верасня 1903 года ў Баку. Хутка пасля яе нараджэння сям'я Арсенневых пераехала ў Вільню, дзе будучая паэтэса правяла дзяцінства і маладосць. Наталля Арсеннева выводзілася з тых Арсенневых, якія далі свету выдатнага рускага паэта Міхаіла Лермантава. Зразумела, што атмасфера ў доме Арсенневых была руская. Аб беларусах, аб іх гісторыі, геаграфіі і літаратуры даведалася Наталля Арсеннева толькі ў гімназіі. У 1915 годзе сям'я Арсенневых у сувязі з набліжэннем руска-нямецкага фронту пераехала ў Яраслаўль. У пачатку 1920 года Арсенневы зноў вярнуліся ў Вільню. Матэрыяльныя ўмовы сям'і вельмі скамплікаваліся. Семнаццацігадовая Наталля была прымушана адначасна працаваць і вучыцца.

Мабыць, якраз гэты перыяд трэба трактаваць як пераломны ў аспекце нацыянальнай свядомасці Н. Арсенневай. Справа ў тым, што ў гэты час пачынае яна вучыцца ў Першай беларускай гімназіі ў Вільні. У гэтай школе выкладалі выдатныя беларусы: Браніслаў Тарашкевіч, Антон Луцкевіч, Максім Гарэцкі, Аркадзь Смоліч. Гэта яны прышчапілі Н. Арсенневай любоў да ўсяго беларускага. „У 1920 годзе, — напіша Арсеннева, — я паступіла ў сёмую класу 1-ае Віленскае Беларускае Гімназіі і гэтае здарэнне было вялікай падзеяй у маім жыцці, яно заважыла на ўсёй маёй будучыні. У Віленскай Беларускай Гімназіі я ўпершыню сустрэлася з беларускаю справай і захапілася ёю“.



*Наталля Арсеннева ў 1955 годзе.*

Якой жа незвычайнай сілай пераконвання валодалі вышэй названыя выкладчыкі, калі патрапілі рускай па нацыянальнасці асобе прывіць беларускую нацыянальную свядомасць?!

У 1922 годзе Наталля Арсеннева выйшла замуж за беларуса з Валожыншчыны, прафесійнага польскага вайскоўца, капітана Францішка Кушаля.

У 1940 годзе Арсеннева з двума сынамі была вывезена ў Казахстан. Аднак у маі 1941 года, дзякуючы дапамозе Саюза пісьменнікаў БССР, вярнулася на радзіму.

Праз месяц пачынаецца нямецкая акупацыя. Наталля Арсеннева, як і яе муж, ангажуюцца ў беларускі пранямецкі рух. Яе вершы часта паяўляюцца ў беларускай легальнай прэсе.

У час акупацыі сустракае Арсенневу асабістае гора — ад выбуху падложанай партызанамі міны гіне ў тэатры яе сын Яраслаў.

Пасля вайны Арсеннева апынулася з мужам і другім сынам у Заходняй Германіі, адкуль пераехала ў ЗША, дзе жыве да сёння. Першыя дзіцячыя вершы напісала Арсеннева ў часе знаходжання ў Яраслаўскай гімназіі. Зразумела, што былі яны напісаны на рускай мове.

Другое, на гэты раз спелае, нараджэнне Арсенневай, як паэтэсы звязана з яе навукай у Ві-

падпалілі. А была яна поўная народу: хто прыйшоў нагрэцца, хто пахмяліцца.

Ажно шуганула вялікае полымя. Падняўся крык. Мужыкі ўцякаць хто куды! Тыя, што не здолелі ўцячы, жыўцом згарэлі.

Калі прыбеглі жыхары Стрыкоў, то ўбачылі толькі папялішча. Цела старой карчмарыхі, як не шукалі — так і не знайшлі. Яна прапала бясследна. Але ці бясследна?

Хто зімовай ноччу праходзіць дарогай праз лес з Ягуштова ў Стрыкі, можа раптам пачуць крыкі, стогны, дзікі смех. Дарогу можа пераступіць старая карчмарыха са страшным абгарэлым тварам. Выжаліцца яна хоча, ці адпомсціць за сваю крыўду?

Калі прыдзецца вам ноччу пераходзіць тую дарогу, не аглядайцеся за сябе. Калі адчуеце, што нешта да вас працягвае рукі, хоча ўцягнуць у лясныя нетры, скажыце: „Прэч, загіньце, ведзьмы, злыдні“. І яны адступяцца ад вас.

Пакідаем „карчмовіско“, тое заклятае месца, і накіроўваемся бліжэй цеплыні людскіх сяліб, у бок Стрыкоў. Па дарозе, якая называецца „Могільнюха“, заходзім на курган з V ст. н.э. Аб такой даўнасці кургана сведчаць прадметы з бронзы, знойдзеныя тут інж. Барыславам Рудкоўскім, нястомным даследнікам мінулага Бельшчыны.

Ад кургана толькі паўвярсты да вёскі

## СТРЫКІ

Здалёку ўжо відаць стары вятрак-галендар (дарэчы, яны надта ж рэдкія на Падляшшы) і крытую саломай вялікую хату колішняга млынара. Стрыкі — вёска, з трох бакоў прытуленая да лесу, колішняй Бельскай пушчы. Яна ўпершыню ўпамінаецца ў дакументах пад 1528 годам. У 1576 годзе Стрыкі ўпамінаюцца пад другой назваю — Младзянова — сяло прыналежнае гораду Бельску (у 1661 г. Stryki alias Młodzianowo). Сённяшняя назва сяла паходзіць ад слова *стрык* — брат бацькі.

Давайце пяройдземся па цяперашніх Стрыках. Вёска распаложана ў даліне, пад лесам. На поўначы, уздоўж клуняў, цягнецца высокі ўзгорак. Калі глядзець з яго ўніз, вёска выглядае надта ж прыгожа: Стрыкі раскінуты ў даліне, а насупраць нас, на другім узгорку, над дахамі дамоў і клуняў, пнецца ў неба стары бор. Стаяў бы гэтак на ўзгорку ды глядзеў бы вечна на тую неаб'емную людскім пачуццём прыгажосць...

*(Заканчэнне будзе.)*

**Мікола Сахарэвіч**



*Лясная царкоўка з XVII/XVIII ст. каля Стрыкоў.*
*Мал. Юркі Федарука, 2.10.1988.*

(Працяг са стар. 6)

## НАША ПОШТА

лепш, чым калі-небудзь яшчэ. Рабіце ў гэтым кірунку ўсё магчымае — шукайце, знаходзьце, распрацоўвайце, друкуйце і зноў шукайце. Памятайце, на вас з надзеяй глядзяць беларусы. Пройдзе час і, я глыбока ўпэўнены, наша цудоўная мова стане на Беларусі дзяржаўнай, агульнаўзаконенай, гэтак жа, як і наша геаічная гісторыя, як і ўся наша непаўторная культурная спадчына. Вырашэнне пытання „як хутка гэта будзе?“ ў нашых руках.

З павагай **Анатоль Казлоў**,
27 снежня 1988 г.

P.S. Вельмі хачу весці перапіску з людзьмі, якія падзяляюць мае погляды. Жадаю ўласнымі вачыма ўбачыць, як жывуць беларусы ў ПНР. Калі ласка, дапамажыце мне! Коратка паведамляю пра сябе: працую мастаком-афарміцелем, цікаўлюся гісторыяй, замежнымі мовамі, іграю на гітары, люблю прыроду, рыбалку, ненавіджу бюракратызм, кансерватыўныя перакананні, усё што тармазіць прагрэс.

Мой адрас: БССР, 225730, Брэсцкая вобласць, Пінскі раён. вёска Вішэвічы, вул. Лунінецкая, 5,
Казлову Анатолю Анатольевічу



ленскай беларускай гімназіі. Першы напісаны на беларускай мове верш „Восень“ паказала яна Максіму Гарэцкаму, які пахваліў твор і пасля апублікаваў у газеце „Наша Думка“ ад 8 верасня 1921 года. Было тады Наталлі Арсенневай 18 гадоў. Варта прывесці першую страфу вельмі характэрнага для першага перыяду яе творчасці верша:

„Хай жаўцее, сціхае сад
з кожнай гадзінай,
Сонца ласкі гарачыя ўсюды
не сее,
Хай гарыць, як заход, лісць
дрыжачы асіны,
Хай апошнія кветкі у садзе
бялеюць, —
будзем чакаць вясны!“

Зацытаваны мною верш узяты са зборніка „Пад сінім небам“ (Вільня, 1927 год). Трэба падкрэсліць, што ён значна адрозніваецца ад варыянту, змешчанага ў зборніку „Між берагамі“ (Нью-Йорк, 1979), ды і даты розныя. У першым зборніку твор датаваны 1921 годам, у другім 1920. Аднак гэта толькі дэталі. Найважнейшае тое, што верш „Восень“ акрэсліваў увесь характар ранняй паэзіі Арсенневай. Галоўнай рысай гэтага характару станавілася татальнае захапленне паэтэсы прыродай і перш за ўсё асеннім пейзажам. Гэтую праўду пацвярджае першы зборнік Арсенневай „Пад сінім небам“, які складаецца з пяці раздзелаў: „Родны край“, „Абразкі“, „Жыццёвае“, „Настроі і летуценні“, „Зачараваны кут“. У „Жыццёвым“ выступаюць філасофскія роздумы над жыццём. У „Родным краі“ маем дачыненне з апрацоўкай фальклорных матываў. Усе іншыя раздзелы аб'ядноўвае матыў пейзажнасці як галоўнай іх дамінанты.

Калі шукаць аналогіі паміж пейзажнасцю Арсенневай і іншых беларускіх пісьменнікаў, дык, мабыць, паэтэса стаіць найбліжэй да прыродаапісальнай паэзіі Багдановіча. Гэтых аўтараў набліжае да сябе суб'ектывізацыя прыроды. Хаця першы раздзел кнігі і называецца „Родны край“, то было б досыць цяжка знайсці ў Арсенневай тыповыя рысы беларускай прыроды. У гэтым аспекце Арсеннева так, зрэшты, як і Багдановіч, далёкія ад Коласа ці Максіма Танка, якія патрапілі насыціць свае творы („Новая зямля“, „Нарач“) не касмапалітычным, а сапраўды айчынным пейзажам. Тым часам большасць прыродаапісальных вершаў Арсенневай і Багдановіча магла б быць аднесена не толькі да беларускай, але і да любой прыроды. Гэта ўласцівасць вынікала з адсутнасці фізічнага кантакту з беларускай прыродай як Арсенневай, так і Багдановіча і таму не можа стацца прычынай закідаў, кіраваных у іх адрас. Справа ў тым, што як „касмапалітычная“, так і айчынная пейзажнасць можа быць аднолькава прыгожая. Арсеннева сваім зборнікам „Пад сінім небам“ адназначна даказала, што валодае дасканала малярскімі паэтычнымі здольнасцямі. Яе пейзажны радок заўсёды каляровы і жывы. Улюбёнай прыроднай тэмай маладой Арсенневай стаўся асенні пейзаж, найбольш для паэтэсы ёмкі, інспіратарскі і творчы.

У міжваенны перыяд многія вершы Арсенневай былі змешчаны ў заходнебеларускім друку („Наш шлях“, „Студэнцкая думка“, „Шлях моладзі“, „Калоссе“), дзякуючы чаму станавілася яна адной з найбольш папулярных тагачасных беларускіх аўтараў.

Пад канец трыццатых гадоў дайшло да цікавай паэтычнай палемікі паміж Н. Арсенневай і Максімам Танкам, які быў на дзевяць гадоў маладзейшы за яе. У вершы „Нашы шляхі“, прысвечаным Арсенневай, Максім Танк напісаў:

„Нашы дарогі расходзяцца
даўно пад зорамі.
На аднэй чуеш крок,
на другой — шум трысця...
Не спаткаліся тут між палёў,
між разорамі,
ня сустрэціцца ім на пясчаным
парозе жыцця.

. . . . . . . .

Сёння песня Твая зацвіла
зачаркованай казкаю, —
а мы казак так даўно ня чулі
ў жыцці! —
усё ідзём каляінай нікім не
пратоптанай, гразкаю;
нам ня можна вярнуцца,
а трэба наперад ісці!
Нашу песню нераз грызлі
голад з сухотамі,
ня было навет ранаў калі
загаіць.
Станавіліся, ведай, на грудзі
падкутымі ботамі
І чужынец-гандляр, а найгоры
гэта юды свае...“

Несумненна, адрасатам Н. Арсенневай „Маладым паэтам“ быў Максім Танк, у якім паэтэса, на маю думку, вельмі шчыра і высокамастацка напісала:

„Я б хацела гарэць і змагацца,
як вы,
Разам з вамі каваць так
чаканае ранне,
але дні мае іншыя маюць
правы:
сыпкім золатам ліпаў маняць
і цыганяць.
Мае дні над аржоннем
цвітуць туманом
і плывуць серабраным удаль
павучыннем,
і звіняць алавяным асеннім
дажджом,
і ў лясох верасамі мядзянымі
стынуць.
Нібы жоўтая восень стаю над
жыццём
і гляджу на яго,
хоць навокал — змаганне.
Мае вершы —
над сонным балотам трысцё,
імгла сівая асенняга рання...“

Вось такім а не іншым было паэтычнае credo Арсенневай у мінулы перыяд. Праўда, сям-там у яе вершах знойдзем і грамадзянскія матывы, аднак яны як у колькасным, так і якасным аспекце неістотныя.

*(Працяг будзе)*

**Алесь Барскі**

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Іван Бурса

### ЦЯЖКАЯ НАВУКА

Казка аб тым,
Як нялёгка зусім,
Хоць нарадзіўся ты
З лапамі і хвастом,
Стаць катом.

Было гэта ні зімой, ні летам, ды вядома дакладна, што перад абедам. Вывеў стары Кот маладога Катка за браму і сказаў прама:

— Хопіць табе, сын, на маёй шыі сядзець. Пабегаў, пагуляў, усмак паеў, удосыць паспаў — час і самому мышэй лавіць.

— А якія яны, мышы? — упершыню пацікавіўся Каток.

— А яны, гэта, во-о-о-сь з такімі хвастамі! — развёў стары Кот лапы як мага шырэй. І, відаць, парашыўшы, што растлумачыў дастаткова добра, на цёплую печку падаўся.

Нічога не засталося Катку, як самастойна на працу накіравацца.

Вакол хаты абышоў, уздоўж плата прабег — на луг выйшаў. Бачыць, нейкія звяры пасвяцца — хвасты ледзь не да зямлі звісаюць.

„Бач, колькі мышэй... — узрадаваўся Каток. — А хвасты яшчэ даўжэйшыя, чым бацька паказваў".

Падкраўся ды хоп за хвост!

— М-м-му-у! — спалохаўся звер ды як махне хвастом — Каток тры разы цераз галаву перакуліўся.

Падхапіўся, абтросся — з усіх ног дамоў панёсся.

— Ну, як паляванне? — пацікавіўся стары Кот. — Упаляваў хоць адну мышку?

— Злавіў, — мяўкнуў Каток. — Толькі яна так хвастом махнула, што я тры разы цераз галаву перакуліўся.

— Дурненькі, — уздыхнуў стары Кот, — ты ўхапіў за хвост не мышку, а карову.

— А якія яны, мышы? — другі раз пацікавіўся Каток.

— А яны, гэта, — задумаўся стары Кот, — такія маленькія, шэрыя...

Нічога не заставалася Катку, як зноў на паляванне падацца.

За браму выйшаў, вакол хаты абабег — бачыць: на прызбе бабка Матруна сядзіць, у руках палачкі мільгаюць, а на зямлі каля яе нешта маленькае шэрае падскаквае — хвост доўгі, проста бабулі Матруне ў рукі цягнецца.

„Дык вось якая яна, мышка!" — узрадаваўся Каток.

Падкраўся неўпрыкметку — цоп! — і ўчапіўся кіпцямі ў маленькае і шэрае.

— Ах ты, дурненькі, — устала з прызбы бабка Матруна. — Ты чаму не даеш мне ўнуку рукавічкі вязаць? — ды як шпурне ў Катка недавязанай рукавічкай.

Яно і не балюча, ды крыўдна.

Каток абтросся — і з усіх ног дамоў панёсся.

(Працяг на стар. 10)



Хлопцы з Чыжоў. Фота Я. Чэрнякевіч.



На ўроку беларускай мовы ў восьмым класе Падставовай школы № 3 у Бельску. Вядзе ўрок настаўніца Марыя Базылюк. Фота Я. Чэрнякевіч.

*Вершы Віктара Шведа*

### САНКІ ВІНАВАТЫ

Сыпануў сняжок пушысты,
Белакрылы, серабрысты.
Выбягаюць дзеці зранку
Пакатацца зноў на санках.
Вырвалася з цёплай хаты
Яшчэ сонная Агата.
Цягне санкі з панадворка
На аснежаную горку.
Вось прыемнасць, вось уцеха,
З горкі ўніз на санках з'ехаць!
Хоць да школы недалёка,
Дык спазнілася на ўрокі.
І тлумачыцца Агата:
— Гэта ж санкі вінаваты!

### ЦІ ТЫ БЫЛА МАЛОЙ ДЗЯЎЧЫНКАЙ?

— Ці ты была малой дзяўчынкай,
Дарагая мама?
— Была, была, мой мілы сынку,
Я жэўжыкам таксама.

— І, мама, ты хадзіла ў школу?
— Хадзіла, вядома.
— А з кім жа я, малы Міколка,
Заставаўся дома?

### ТАТКА ГАВОРЫЦЬ ГЛАДКА

Тата дапякае Колю:
— Ты прадстаў сабе, сынок,
Я ў тваіх гадах ніколі
Не салгаў нават разок.

— А калі ж, прызнайся, татка,
Ты ў жыцці сваім пачаў
Гаварыць няпраўду гладка,
Хоць, як кажаш, не ілгаў?

### ТРЫМАЙ ЯЗЫК ЗА ЗУБАМІ

— Бабка, трымаць не ўмееш
Язык свой за зубамі.
Аб хатніх ты падзеях
Усё даносіш маме.

— Калі меці хочаш, любы,
Ва мне сваю апору —
Раней мне ўстаўце зубы,
А потым пагаворым.

### ЧАМУ БАЦЬКІ СІВЕЮЦЬ?

— Не адзін сівы ўжо валасок
На галаве тваёй, матуля, свеціць.
— Бацькі сівеюць, дарагі сынок,
Тады, калі не слухаюць іх дзеці.

— Не ведаў я раней такіх прыкмет,
Толькі цяпер, мая матуля, знаю,
Чаму зусім ужо сівы наш дзед,
Чаму бабуля нашая сівая.

### КАЛІ РАСЦЕ ТАТА?

Другакласніца Людміла
Задае пытанне таце:
— Гэта праўда, татка мілы,
Што расцеш ты толькі ў хаце?

— Вельмі дзіўныя часамі
Задаеш пытанні, коцік.
— Паўтарае часта мама:
Не расцеш ты на рабоце.

# МІХАСЬКА ХОЧА МЕЦЬ СЯБРОЎ



Міхаська Мароз нарадзіўся з хворым сэрцам. Калі трошкі падрос, яго завезлі ў Варшаву і там яму зрабілі аперацыю. Праляжаў у бальніцы тады 9 месяцаў.

Калі Міхаська скончыў шэсць гадоў, пайшоў вучыцца ў школу. З Відава даязджаў у школу № 4 на Відаўскай вуліцы ў Бельску.

Школа, у якой вучыцца Міхаська, вялікая. Вучацца там больш 900 дзяцей. У школе цеснавата, плануецца разбудова школы. А Міхаську патрэбны спакой. Таму ён пакуль што ў школу не ходзіць. Яму вызначана індывідуальная сістэма навучання — 10 гадзін у тыдзень. Да яго дадому прыязджае настаўніца са школы Ірына Балеста (цяпер яна ўжо на пенсіі і вучыць толькі Міхаську) тры разы ў тыдзень, і ў спакоі Міхаська праходзіць патрэбную праграму.

Міхаська хацеў бы вучыцца разам з дзецьмі, але разумее, што яго стан здароўя на гэта пакуль што не дазваляе. З сумам паглядае ён праз акно, як дзеці бягуць у школу, як катаюцца на санках. Сам жа ён прывык быць дома, любіць майстаркаваць і вельмі хацеў бы, каб дзеці і пра яго памяталі, заходзілі да яго, расказвалі аб сваіх справах. Хацеў бы таксама, каб дзеці здалёк пісалі да яго пісьмы, паштоўкі. Міхаська вельмі любіць прыроду, любіць дакармліваць птушак, хацеў бы мець сілы на прагулкі па лесе. А пакуль што чакае ад сяброў пісем. Пішыце да яго па адрасу: Міхась Мароз, в. Відава, 4. 17-100 Бельск-Падляшскі, Беластоцкае ваяводства.

**Андрэй Гаўрылюк**

##  ПАГЛЫБЛЯЙ  СВАЕ ВЕДЫ 

### ВУГОР

Ні адзін рыбалоў ва ўсім свеце ні разу не бачыў ікрынак вугра. І ўвогуле тайна жыцця і смерці гэтай рыбы на сённяшні дзень яшчэ поўнасцю не раскрыта.

Аднойчы ў моры былі злоўлены празрыстыя малькі. Рыбкі нібы раствораныя ў вадзе, былі падобны на маленькія лісцікі ландыша з чорнымі пацеркамі вачэй. Здавалася, што вочкі жывуць самі па сабе, па-за целам. Змешчаныя ў акварыум, яны раслі, паступова ператвараючыся ў вугранят, паўпразрыстых, як шкло. Вось яна, першая тайна!

Цяпер трэба было знайсці месца іх нараджэння на карце свету.

Дацкаму біёлагу Іаганесу Шмідту ўдалося скласці карту міграцыі вугра на нераст і вяртанне моладзі на радзіму. Гэтым таямнічым месцам аказалася Саргасава мора, якое знаходзіцца ля берагоў Амерыкі. Цячэнне яго вельмі слабое. Вада незвычайна празрыстая. Колер — насычана сіні. Высокая тэмпература вады, хуткі рост амаль нерухомых водарасцей, насычанасць кіслародам... Гэты райскі куточак і выбралі вугры для абзавядзення патомствам.

Пад Новы год вугры на глыбіні 300-400 метраў адкладваюць ікру і гінуць. Па меры росту лічынкі падымаюцца на паверхню. Да канца першага года яны маюць памеры 2,5 см. На другі год жыцця яны становяцца ўдвая большымі, на трэці — утрая. Падрастаючы, сіроткі разам з цёплым цячэннем Гольфстрыма вяртаюцца на радзіму сваіх продкаў. У год яны пераадольваюць адлегласць амаль у 2000 км. Тры доўгія гады патрэбны вугранятам, каб убачыць зямлю бацькоў.

Самачкі жывуць у рэках 7 — 12 гадоў, радзей — 25. Самцы — 5 — 7. З гэтым узростам канчаецца юнацтва. Яны ўжо гатовы паўтарыць шлях бацькоў да месца свайго нараджэння.

Але не ўсе вугры плывуць у Саргасава мора. Некаторыя застаюцца ў рэках, не абцяжарваючы сябе патомствам.

У няволі вугры могуць пражыць шмат гадоў. Здараліся выпадкі, калі вугор жыў у акварыуме больш шасцідзесяці гадоў. Паводле меркавання вядомага вучонага-іхтыёлага Л. Сабанеева вугры могуць жыць у замкнёным вадаёме да 100 гадоў. Адзіная ўмова — чыстая вада. Вугры вельмі жыццяздольныя, пераносяць вельмі цяжкія раненні, амаль высахшыя, ажываюць у вадзе, здольны пераадольваць вялікія адлегласці паміж вадаёмамі.

**Паводле Т. Гулезавай**

##  ПІШУЦЬ ШКОЛЬНІКІ

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА“

Мы — вучні трэцяга і чацвертага класаў Ласінскай школы. У гэтым навучальным годзе ў наш чацверты клас прыйшла новая вучаніца з Барысаўскай школы Ася Давідзюк. Цяпер нас разам васемнаццаць вучняў — сем дзяўчынак і адзінаццаць хлопцаў. Усе мы вывучаем беларускую мову. Амаль усе дзеці з'яўляюцца падпісчыкамі „Нівы“ і „Вясёлкі“. Часта чытаем „Зорку“.

На пачатку лістапада ў нас адбыўся бацькоўскі сход. Прысутнічалі бацькі, вучні і выхавацельніца. Супольна абмеркавалі нашыя паводзіны ў школе і вынікі навучання.

Мы не толькі вучымся, але і гуляем. Мы доўга і старанна рыхтаваліся да „Андрэйкаў“. Найбольш часу на Андрэйкавым вечары занялі варожбы. У ролі варожкі выступіла наша настаўніца Ніна Абрамюк. На ўрачыстасць былі запрошаны бацькі, а таксама вучні першага і другога класаў з настаўніцай Верай Дудзіч. Цяпер мы рыхтуемся да катання на санках.

Мы моцна перажывалі трагедыю ў Арменіі. У сувязі з гэтым мы правялі збор грошай. Сабралі тры тысячы злотых. Найбольш грошай прынеслі Бася Астапчук, Ася Давідзюк, Бажэна Янюк і Янка Дзмітрук.

Жадаем Табе, „Зорачка“, усяго найлепшага ў новым, 1989 годзе!

**Вучні III і IV класаў з Ласінкі (17 подпісаў)**

##  ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

Тата здзіўлены:

— Алёнка, чаму ты стаіш перад люстэркам з заплюшчанымі вачыма?

— Хачу паглядзець, як я выглядаю, калі сплю.

* * *

Развітваючыся, Каця пытаецца ў сяброўкі:

— Аня, які ў вас тэлефон?

— Чырвоны.

* * *

— Як ты думаеш, Надзя, што бліжэй да нас: Месяц ці Аўстралія?

— Вядома, Месяц. Мы яго бачым, а Аўстралію — не.

* * *

— Які ты ведаеш найстарэйшы музычны інструмент? — пытаецца настаўнік.

— Акардэон, — упэўнена адказвае вучань.

— Чаму? — здзіўляецца настаўнік.

— Бо ён найбольш зморшчаны.

* * *

— Дык што, Пеця, сустракаемся ў пяць?

— Так.

— Добра. А калі ты прыдзеш?

### ЗАГАДКА

*Скажыце, дзеткі,*
*што гэта такое:*
*калі бацька ці маці*
*складаюць яго ўдвое,*
*ён, хоць зубоў не мае,*
*непаслухмяных,*
*распусных*
*праз штаны*
*вельмі моцна*
*кусае?*

**Язэп Карпюк**
**Сямяцічы**

### ЦЯЖКАЯ НАВУКА

(Працяг са стар. 9)

— Ну, як паляванне? — пацікавіўся стары Кот. — Упаляваў хоць адну мышку?

— Злавіў, — мяўкнуў Каток. — Толькі бабка Матруна адабрала — рукавічкай у мяне запусціла.

І Каток расказаў усё як было.

— Дурненькі, — уздыхнуў стары Кот. — Гэта ты не мышку злавіў, а ў клубок нітак учапіўся. З іх мала карысці: ні мяса — паласавацца, ні касцей — пагрызці... Наша справа — мышы!

— А якія яны, мышы? — трэці раз пацікавіўся Каток.

— А яны, гэта, — наморшчыў лоб стары Кот, — сыр любяць. Я, помню, адну злавіў, калі яна галоўку сыру грызла.

І стары Кот, вырашыўшы, што растлумачыў дастаткова добра, улёгся зручней, каб сон дасніць, а Каток трэці раз на паляванне падаўся.

Цераз двор прабег, вакол хаты абышоў, у хлеў зазірнуў. Бачыць, на бервяне звярок сядзіць, чорную скарыначку грызе. Сам маленькі, шэранькі, хвосцік да зямлі звісае.

„Па ўсіх прыкметах — мышка, — падумаў Каток. — Але чаму яна хлебную скарыначку грызе, а не сыр? Трэба спытацца, а то і трэці раз памыліцца няцяжка...“

Падышоў Каток і ледзь чутна пытае:

— Ты сыр любіш?

— Ой! — схамянулася Мышка і ад перапуду хлебную скарыначку ўпусціла. — Люблю, — прызналася яна.

— Цудоўна! — пацёр Каток лапкі. — Урэшце я знайшоў тое, што шукаў... Зараз я цябе злаўлю і папалудную.

Зразумела Мышка, што трэба неяк выкручвацца, сваё жыццё ратаваць, — пачала хітраваць.

— Пачакай крышку, паважаны Кот, — пачала яна прасіць і наўмысна Катка Катом назвала. — Раз мне выпаў лёс табе на абед трапіць — нікуды не падзенешся. Толькі ў мяне зараз усе зубы чорныя — сам бачыў, — я гарэлую скарыначку грызла. Адпусці на хвілінку дадому — зубы пачысціць. Не да твару табе, паважанаму Кату, нейкай там мышкай-замухрышкай палуднаваць.

Прыемна Катку такія словы чуць. Нават сам сябе паважаць пачаў.

— Добра, — згадзіўся, — ідзі. толькі не затрымлівайся.

Шмыгнула мышка ў норку і як у ваду канула.

А Каток аж дасюль каля норкі сядзіць — мышку чакае. Калі, вядома, не падрос за гэты час ды не паразумнеў.

Не простая гэта справа стаць добрым катом!.

**З рускай мовы пераклаў Рыгор Барадулін.**

## АДГАДАНКА



Упішыце ў кружкі лічбы ад 1 да 9 так, каб сума лічбаў на кожным баку трохвугольніка раўнялася 20.

##  ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

БССР, 222320, Мінская вобл., Маладзечанскі раён, с. Краснае, пер. Карбышэва, 5, кв. 8. Мінязавай Людзе, 3 клас.

СССР, 346514, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Театральная, 37, кв. 5. Туркеничевой Ларисе. (Дзяўчынка прыгожа малюе).

* * *

БССР, 247235, Гомельская вобл., Жлобінскі раён, с. Шчэдрын. Гайкевіч Валянціне. 6 клас.


Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok ul. Wesołowskiego 1 „Зорка“

# СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

## ТЫ ЎСПОМНІ ЎСЕ

*Словы А. Куляшова.*
*Музыка І. Лучанка.*

*Калі вясною закукуе*
*Зязюля ў лесе раніцой,*
*Ты прыгадай вясну другую,*
*Сустрэчы нашыя з табой.*

*Прыпеў:*

*Згадай усё, што сэрцу міла,*
*Што сэрцу дорага было.*
*Забудзь, што ўсё адгаманіла,*
*Адкукавала, адышло.*

*Згадай усё, што нам жадала*
*Зязюля ў звонкім гушчары.*
*Забудзь, як ў хованкі гуляла*
*Жаданне з намі да зары.*

*Прыпеў.*

*Тым днём, як рэху, не вярнуцца*
*Ні да цябе, ні да мяне.*
*Забудзь! Хай сэрцы адгукнуцца*
*Адно другому па вясне.*

*Прыпеў.*

ПАВОЛЬНА З ПАЧУЦЦЁМ

# НІЎКА



*Сучасная дуэль.*

## ЗАБЫЛАСЯ...

Прыйшла жанчына да хворай суседкі.
— Я ўжо дзве гадзіны гутару з табою, а ты ні разу не застагнала.
— А мілая, я вось з табою так загаварылася, што і стагнаць забылася.

*

У час спірытыстычнага сеанса жанчына выклікае дух свайго мужа, які нядаўна памёр і пытаецца:
— Ці лепш табе зараз, чым тады, калі ты жыў са мной?
— Так.
— А дзе ты знаходзішся?
— У пекле.

## ДВА ГУЛЬТАІ

Жылі-былі два такіх гультаі, якіх свет не бачыў. Ляжалі яны аднойчы пад яблыняй. Адзін з іх стаў прыгаварваць:
— Яблыка, даспей і ўпадзі мне ў рот!

Другі прыадкрыў вочы і сказаў: — І як ты не лянуешся гаварыць так доўга?



Малюнак А. КАРШАКЕВІЧА.

**Язэп Карпюк**

## АФАРЫЗМ

**Калі ў галаве розуму**
**не хапае,**
**Тады ў хаце**
**бязгрошша гуляе.**



**Дурням добра: ім не трэба прыкідвацца дурнямі.**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | | 3 | | 4 | ■ | ■ | 5 |
| ■ | | ■ | | ■ | 6 | 7 | | |
| 8 | | | | | | | ■ | |
| ■ | | ■ | | ■ | 9 | | | |
| 10 | | 11 | ■ | 12 | | | ■ | |
| 13 | | | | | ■ | | ■ | ■ |
| | ■ | | ■ | 14 | | | | 15 |
| 16 | | | | | ■ | | ■ | |
| | ■ | | ■ | 17 | | | | |

## КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 1) пашана, пачцівасць, 6) саланіна, 8) абаронца варотаў, 9) загарадны дом для адпачынку, 10) мурлыка з вусамі, 12) той, хто катуе, 13) тканіна для абмотвання ног, 14) цэнтральны орган кровазвароту, 16) узброеныя сілы, 17) заезджаная кабыла.

**Уніз:** 2) у грэцкай міфалогіі бог сонца, 3) напрыклад жыхар Ірака, 4) акружэнне, аблога, 5) урачысты агляд войск, 7) музычны твор аркестрава-харавога характару, 10) вольны чалавек на Запарожжы, 11) месца зняволення, астрог, 12) чарада рыб або касы прадмет, 15) насякомае з джалам.

Сярод чытачоў, якія на працягу двух тыдняў прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будзе разыграна кніжная ўзнагарода.

## ЖОНКА

— Што ў нас будзе на абед? — запытаў я ў жонкі.
— 800 калорый, — адказала жонка. — На першае — 200 калорый, на другое — 300 і на трэцяе — 300.
— А можа на трэцяе — 500 калорый? — папрасіў я.
— Нельга, — запярэчыла жонка, — ты і так сняданнем з'еў на 200 калорый больш.

З'еў я свае калорыі і прылёг адпачыць.
— Устань, — скамандавала жонка. — Ідзі пагуляй, магчыма, што страціш 200—300 калорый. Ты і так за апошні месяц лішні кілаграм наеў.
Я ўстаў і надзеў паліто.
— Ну навошта я гэта зрабіла? — застагнала жонка.
— Што?
— Навошта я з'ела на абед гэтае піражнае? Змагалася да апошняга і ўсё ж такі не вытрымала. Што цяпер будзе? Гэта ж 20 грамаў тлушчу, 15 — бялкоў і 10 — вугляводаў. Цяпер ува мне будзе 65 кг і 40 грам — падлічыла жонка.
„Трэба падшукаць сабе якую-небудзь лягчэйшую", — падумаў я і выйшаў на вуліцу.

Лей Карсунскі.




## У СВЕЦЕ МУДРЫХ ДУМАК

*Любоў настолькі ўсемагутна, што перараджае і нас саміх.*

*Хведар Дастаеўскі (1821-81), пісьменнік.*

*

*Вышыня культуры акрэсліваецца адносінамі да жанчын.*

*Максім Горкі (1868-1936), пісьменнік.*

*

Жанаты мужчына халастому:
— І ўсё-такі ў сямейным жыцці ёсць перавага. Прынамсі ты можаш гаварыць жонцы ўсё, што хочаш... Усё роўна яна цябе ніколі не слухае.




**Каб распісацца ў асабістай слабасці, патрэбная цвёрдая рука.**